Год II. Сьнежань 1933 г. № 12 (24).




Ты еси Петръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Матѳ. ѕі. иі.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

## ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Сьнежань 1933 г. № 12 (24).

## Нараджэньне Госпада Нашага Ісуса Хрыста — Каляды.

*(25 сьнежня).*

*(ЭВАНГЕЛЬЛЕ ПАВОДЛЕ СЬВ. МАЦЬВЕЯ. РАЗЬДЗЕЛ 2, 1—12. ЗАЧАЛА 3).*

*1. Калі-ж Ісус нарадзіўся ў Віфлееме Юдэйскім у дні Ірада цара, вось прыйшлі мудрацы з усходу ў Ерузалім,*

*2. Кажучы: дзе ёсьць нованароджаны цар Юдэйскі? бо мы відзелі зорку ягону на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму.*

*3. Пачуўшы гэта, цар Ірад спалохаўся, а з ім увесь Ерузалім.*

*4. А сабраўшы ўсіх архірэяў і кніжнікаў народных, выпытваў іх: дзе меў нарадзіцца Хрыстос?*

*5. А яны сказалі яму: У Віфлееме Юдэйскім. Бо так напісана ў прарока:*

*6. „І ты, Віфлееме, зямля Юды,*
*Ні ў чым ня ёсьць меншы ў княжствах Юдэйскіх,*
*Бо з цябе выйдзе павадыр,*
*Каторы кіраваць будзе народам маім Ізраільскім.*

*7. Тады Ірад, тайна прызваўшы мудрацоў, выпытваў іх аб часе, калі ім аб'явілася зорка.*

*8. І, пасылаючы іх у Віфлеем, сказаў: Ідзеце і добра разьведайце аб дзіцяці, а калі знойдзеце, паведамце мяне. каб і я, пайшоўшы, пакланіўся Яму.*

*9. Яны-ж. выслухаўшы цара, пайшлі: і вось зорка. каторую відзелі на ўсходзе, ішла перад імі, пакуль прыйшоўшы, стала зьверху там, дзе было дзіця.*

*10. А, увідзеўшы зорку, узрадаваліся радасьцяй вельмі вялікай.*

*11. А, увайшоўшы ў дом, знайшлі дзіця з Марыяй, маткай ягонай і, упаўшы, пакланіліся Яму: і, адкрыўшы скарбы свае, ахвяравалі Яму падаркі золата, ладан і сьмірну.*

*12. А, дастаўшы ўва сьне вестку, каб не вяртацца да Ірада, іншым шляхам вярнуліся ў сваю краіну.*

---

Сяньня вялікае сьвята, сьвята Нараджэньня Госпада нашага Ісуса Хрыста. Ісус Хрыстос прыняў на сябе ўсе грахі сьвету, дзеля збаўленьня роду чалавечага нарадзіўся ў Віфлееме.

Сьвяты Мацьвей мала нам гаворыць у сваім эвангельлі аб нараджэньні Збаўцы. Больш падрабязна гэта важнае здарэньне для роду чалавечага апісвае сьв. эвангеліст Лука.

Паводле гэтага апісаньня, Сын Божы прыйшоў на сьвет у вялікай убогасьці: ня было месца для сьвятой сям'і ў заезьдзе, прышлося пераначаваць у пячоры, дзе заганяюць пастухі быдла ў часе непагоды. Усемагутны Госпад і Пан родзіцца на сьвет, як найбяднейшы жабрак.

Найсьвяцейшая Дзева Марыя спавіла свайго сына ў пялюшкі ды палажыла ў жолаб.

Паўстае пытаньне, чаму Сын Божы родзіцца ў гэткай убогасьці, ці-ж ня мог-бы радзіцца ў багатым палацы і быць паложаным у залатой калысцы? Пэўне, што мог-бы, калі хацеў-бы, бо ад Госпада Бога ўсё залежыць, аднак выбраў убогасьць, бо ўбогасьць палюбіў.

Нарадзіўся Збаўца ў найбольшай убогасьці, жыў, як найбяднейшы і памёр на крыжу, як убогі і зьняслаўлены ліхадзей,

Гледзячы на народжанага Сына Божага ў такой убогасьці, войска нябеснае сьпявала: „Слава на вышынах Богу і на зямлі мір сярод людзей добрае волі" (Лук. 2, 13).

Вось, дарагія браты і сёстры, Ісус Хрыстос даў нам прыклад, як найлепей можна праслявіць Госпада Бога і мець мір, супакой, жывучы паміж людзей.

Хвала Божая выплывае з выпаўненьня сьвятой волі Госпада Бога. Чым з большай ахвярай выпаўняецца воля Божая, тым большая выяўляецца яму хвала. Ня цяжка чалавеку ў дастатках жыць ды выпаўняць праз сваё жыцьцё Божую волю, а калі чалавек у бядзе ды недастатках, не наракаючы на Бога, пакорна нясе свой вялізарны крыж, такі большую выяўляе любоў да Госпада Бога, лепш праслаўляе Яго.

У нашыя паваенныя часы ня трэба шукаць недахопу ды ўбогасьці, яна сама навязваецца ды вельмі распаўсюджваецца. Не хапае шмат каму неабходных рэчаў да жыцьця, не хапае нават хлеба. Ня мае чалавек чым прыкрыць сваё цела, забясьпечыць сябе ад холаду. Вось, калі чалавек пераносіць усе недахопы жыцьцёвыя дзеля Бога і для Бога пакорліва, дык Госпад Бог відзіць усё і прыймае, як дым кадзіла, або, як пастаўленую перад іконаю сьвечку, што згарае на Яго хвалу.

Бяда ўзмацоўвае дух чалавечы і часта прыбліжае да Бога. Вось прычына, чаму сярод бедных людзей часта мы сустракаем людзей глыбокай веры ды вельмі моральнага жыцьця, а сярод багатых, як часта, хаця незаўсёды, можна сустрэць людзей, для каторых Бог непатрэбны, жывуць толькі для сябе.

Праўда, для людзей, вельмі слабых духоўна, бяда ды недахопы служаць прычынай упадку моральнага: часта дапушчаюцца крадзежы, для куска хлеба прадаюць сябе ды сваю душу, згаджаючыся на сужыцьцё бяз шлюбу.

Яшчэ часьцей багацьце бывае прычынай упадку.

У адным мястэчку ў Вэстфаліі купіў сабе адзін бедны чалавек бяз веды жонкі выйгрышны білет. Трэба-ж было здарыцца, што галоўны выйгрыш выпаў якраз на яго нумар, такім чынам бедны работнік атрымаў 20.000 марак. Калі-ж вестка гэта дайшла да жонкі яго, дык тая спалохалася ды пачала лямэнтаваць: „Ах, якое няшчасьце, якое-ж няшчасьце!“ Людзі падумалі, што гэта жанчына звар'яцела, калі так пужаецца шчасьця свайго мужыка. Але яна казала праўду: мужык яе, каторы перад гэтым быў працавіты ды ашчадны, аддаўся цяпер гультайству, карцярству ды п'янству. У некалькі гадоў прагуляў усе грошы ды да таго далажыў яшчэ сваю хату і ўсю чыста маемасьць. Пасьля з цэлаю сям'ёю быў толькі цяжарам для воласьці.

Вось да чаго давяло багацтва.

Умілаваньне ўбогасьці таксама дае спакой. Чалавек спакойны, здаволены ды шчасьлівы, калі ўсё дзеецца па-

водле яго пажаданьня, калі мае тое, чаго жадае яго сэрца. Багацьце ня так лёгка атрымаць, а ўбогасьць, нікому непатрэбную, кожны можа мець паводле пажаданьня. Чалавек убогі, каторы ня шукае багацьця, заўсёды здаволены, мае спакой.

Нажаль, як часта ў сем'ях хрысьціянскіх бываюць сваркі, асабліва перад сьвятам, калатня ды абраза божая. Чаму, якая галоўная прычына такога стану рэчаў? Чаму няма спакою ў сям'і?

Галоўнаю прычынаю ёсьць недахоп замілаваньня да ўбогасьці. Як часта дачка або сын гневаюцца на бацькоў, падымаюць сваркі дзеля таго, што айцец ня хоча, а мо' і ня мае за што купіць новую вопратку. Каб было ўмілаваньне ўбогасьці, дык ня былс-б гэткіх прыкрых спрэчак ды граху, якія часта бываюць.

Так сама і ў дзяржаве, ня было-б крывавых рэвалюцыяў, барацьбы паміж грамадзянамі, каб ня было неўмяркованага пажаданьня багацтва. Ня было-б бойкаў ды ўсіх страшэнных з іх пасьледзтваў.

Апошняя вялікая вайна была прычынай страшнае гвалтоўнае сьмерці 10 мільёнаў маладых людзей. Рэвалюцыя ды пасьля, як пасьледзтва яе, страшэнны голад мо' ня менш забрала людзей, а сьлёзы ды гора хто-ж зьмерыць, адзін Бог толькі ведае.

Мае дарагія браты і сёстры, у вялікае сьвята Нараджэньня Госпада Ісуса Хрыста, жадаю я вам ад усяе душы шчасьця, жадаю, каб правялі сьвята весела. Будзем шчасьлівымі ды вясёлымі, калі прыклад дадзены нам Госпадам нашым Ісусам Хрыстом будзем праводзіць у нашае жыцьцё, калі палюбім убогасьць так, як Ён любіў.

Як калісьці над ясьлямі Народжанага Ісуса Хрыста, захопленыя дзіўным відзеньнем ангелы сьпявалі: „Слава на вышынах Богу і на зямлі мір", — таксама, узіраючыся на людзей убогіх, выпаўняючых волю Божую, палюбіўшых убогасьць, будуць магчы засьпяваць: „Слава на вышынах Богу і на зямлі мір сярод людзей добрае волі" Амін.

*а. Антоні.*



# Пачатак грэцкага расколу.*)

**Міхал Кэруляры.**

У 11 нумары „Да Злучэньня“ мы ўспомнілі аб тым, што ў сутнасьці дух Візантыі быў прычынаю няшчаснага расколу і Фоцый быў толькі найбольш удачным яго выражальнікам.

Мы ведаем, што гэты дух крыўся ў жаданьні імпэратараў бескантрольна законадаўстваваць у справах Царквы, у імкненьні япіскапаў, а асабліва канстантынопальскіх патрыархаў да царкоўнае аўтаноміі і ў пагардзе да ўсяго, што ня было грэцкім; і гэтыя агульныя прычыны ўскладніліся ў далейшым часе новымі прычынамі чыста палітычнага парадку.

З волі імпэратара Лявона Філёзофа паміж Рымам і Канстантанопалем аднавіўся мір, які афіцыяльна цягнуўся 168 гадоў. Гэтага часу было-б здаецца даволі дзеля зьнішчэньня ўсялякіх сьлядоў расколу, калі-б паміж абедзьвюма цэрквамі былі запраўды шчырыя адносіны. Але нажаль вялікія лікам няўдачныя або няшчырыя пастулкі і жалю вартыя мерапрыемствы з таго і з другога боку, а асабліва палітычныя спрэчкі, падтрымлівалі ўзаемны недавер.

Праўда, былі прыклады і добрых узаемаадносін у той час, як напр. пілігрымствы да Сьвятых Месцаў, якіх гасьцінна прымала Візантыйская імпэрыя, калі яны прыходзілі з Захаду; усходнія япіскапы найчасьцей адносіліся да лацінскіх япіскапаў, як да братоў; пілігрымы з Усходу адведвалі магілы сьв. Апосталаў; шмат якія з грэцкіх манахаў закладалі ў Італіі манастыры; Сьв. Ніл і абодва сьв. Сымоны былі залічаны да сьвятых Рымскаю Царквою; а калі сьв. Ніл змушаны быў пакінуць свой манастыр у Росано, па прычыне навалы Сарацынаў, ён разам з 60-ма манахамі знайшоў прыпынак у Монтэ-Касыно, дзе яны былі прынятымі, як браты, атрымалі поўную магчымасьць адпраўляць свае багаслужэньні паводле грэцкага абраду і жылі ў поўнай згодзе з бэнэдыктынскімі манахамі. Заснованы імі пазьней манастыр у Грота-Фэрратэ істнуе да сяньняшняга дня і заўсёды быў зусім каталіцкім.

Падобна да грэцкіх, у Італіі істнавалі лацінскія манастыры ў Ерузаліме, на Афоне і нават у Канстантынопалі.

Але прычыны дзеля непаразуменьняў у галіне веранавукі, і асабліва ў галіне палітыкі, далёка ня зьніклі.

---

*) Дакончаньне. Гл. № 11(23) „Да Злучэньня!“.

Праўда, імпэратар Лявон VI аканчальна выгнаў Фоцыя, але некаторыя пытаньні былі нявырашанымі; і ў гэтых пытаньнях візантыйцы не хацелі пайсьці на ніякія ўступкі.

Гэтак, у Канстантынопалі ўпорліва не хацелі прызнаваць формулы „Дух Сьвяты сходзіць ад Айца і ад Сына“, і сам імпэратар Лявон VI сказаў пропаведзь проці слова „Filioque“.

Візантыйцы ўпорліва хацелі захаваць пад сваёю юрысдыкцыяй царкоўныя грамады паўдзённай Італіі і Баўгарыі. Імпэратар Нікіфар Фока прылучыў Апулію да Канстантынопальскага патрыярхату і, ня лічачыся з Папаю, устанавіў грэцкае архіяпіскапства ў Отранто ды прабаваў забараніць багаслужэньне паводле лацінскага абраду ўва ўсёй гэтай часьці Італіі. Імпэратар уласным распараджэньнем скасаваў Баўгарскі патрыярхат.

Усе гэтыя ўмешваньні імпэратарскае ўлады ў царкоўныя справы пэўна што ня сьведчылі аб пашане да аўторытэту Рымскага Першасьвяшчэньніка, а без пашаны няма гутаркі аб шчырасьці і любові.

Нажаль, рымскія Першасьвяшчэньнікі Х-га і пачатку XI-га стагодзьдзя, як людзі, ня ўсе былі годнымі пашаны, таму што ў той час розныя палітычныя партыі спрачаліся адна з аднэю за кіраваньне горадам Рымам і ўладаньне Першасьвяшчэньніцкім Пасадам. Візантыйскія імпэратары падтрымлівалі тую ці іншую партыю і не абыйшлося пры гэтым бяз розных сумных зьявішчаў, якія пэўна-ж не прычыніліся да ўмацаваньня ўзаемнае пашаны.

Аднак-жа ў працягу гэтага страшэннага Х стагодзьдзя канстантынопальскія патрыархі мелі нахіл падтрымліваць адзінства з Рымам за выняткам Аўстахія, які вымагаў, каб Папа Іоан XX афіцыяльна прызнаў поўную незалежнасьць канстантынопальскага пасаду і тытул сусьветнага патрыярха, хоць-бы адносна да ўсяго Ўсходу. Але яшчэ ў сярэдзіне XI стагодзьдзя надзея на захаваньне адзінства Царквы ня зусім была згублена.

Але энцykліка Фоцыя ўсё яшчэ хадзіла па руках. Хрысьціянская сьвядомасьць веры і любові ведама-ж і далей працідзейнічаць не пераставала, як сярод усходніх, так і сярод заходніх хрысьціян, але яна была не даволі сільнаю.

Агулам бяручы, усюды панавала пэўнае незадаволеньне, падтрымліваўшае ўзаемны недавер і заўсёды гатовае перайсьці ў адкрытую ненавісьць, варта было толькі зьявіцца чалавеку, досіць настойліваму і рашучаму, і гэткі чалавек знайшоўся,

Гэта быў наступнік патрыярха Аляксея — Міхал Кэруляры.

Ён належаў да багатае і ўплывовае сэнатарскае сям'і ў Канстантынопалі. Разам з братам сваім ён атрымаў якнайлепшае выхаваньне, але наколькі брат яго быў у сваім жыцьці сьвецкім і таварыскім чалавекам, натолькі Міхал меў замкнёны характар і нахіл да адзіноты. З маладых гадоў сур'ёзны, ён быў прыхільны да містыцызму, жыў аскетам, але пры гэтым быў вельмі ўладалюбівы. У 1040 г. ён быў душою змовы проці імпэратара Міхала IV, разьлічваючы зрабіцца яго наступнікам. Змова была выкрыта і Кэруляры быў сасланы. Там, маючы час, ён яшчэ больш аддаўся разважаньням, а трагічная сьмерць яго брата скіравала яго думку пастрыгчыся ў манахі.

Вопратка манаха не зьмяніла яго характару. Вернены з ссылкі, пасьля сьмерці Міхала IV і нядоўгага панаваньня Міхала V, ён зблізіўся вельмі хутка з імпэратарам Канстантынам IX Манамахам ды зрабіўся найуплывовейшаю асобаю ў імпэрыі. Дабіўшыся назначэньня на пасаду галоўнага сэкрэтара канстантынопальскае Царквы, ён атрымаў шырокае поле дзейнасьці для свайго цьвёрдага характару.

Пасьля сьмерці патрыарха Аляксея ўсходзіць Кэруляры на патрыяршы пасад, будучы абвінавачаным у подкупе выбіральнікаў, але, маючы за сабою імпэратара, атрымлівае першараднае значэньне ў справах царквы і дзяржавы.

Ён ужо быў пяць гадоў патрыярхам, калі Нямецкі імпэратар Гэнрых III пажадаў выбраць у наступнікі Папы Дамазыя II, япіскапа гораду Туля на імя Бруно. Япіскап прыехаў у Рым, як просты пілігрым, і згадзіўся заняць Папскі Пасад ня іначай, як з варункам законнага выбару духавенствам і народам гораду Рыму. Выбар адбыўся. Гэта быў сьв. Лявон IX. Падобна да таго, як у свой час Правідзеньне проціпаставіла інтрыгам Фоцыя разумнага, спакойнага і энэргічнага Папу Мікалая I, цяпер Яно падгатаўляла ў асобе Папы Лявона IX цьвёрдага і простага працiўніка самаволі і зьняважлівых паступкаў Кэрулярыя.

Варожыя дзейнічаньні разгуліся, як гром, у сярэдзіне 1053 г. Гэта здарылася якраз у разгары барацьбы Папы Лявона IX з Нарманамі. Япіскап Ахрыды ў Баўгарыі — Лявон прыслаў пісьмо япіскапу гораду Троні, выказваючы пры гэтым жаданьне, каб яго пісьмо зрабілася вядомым Папе і франконскім япіскапам.

У гэтым пісьме ён абвінавачвае лацінскую Царкву ў юдаізме: яна, бач, карыстаецца прэснакамі пры спаўняньні Таінства Сьв. Эўхарыстыі і загадвае трымацца посту ў суботы, а цераз гэта рымская Царква абярнулася ў жыдоўскую сэкту; ён маліў Папу вярнуцца да ранейшых звычаяў Царквы.

Адначасна ў Канстантынопалі была выдана яшчэ вастрэйшая адозва дзеля распаўсюджаньня па ўсёй грэцкай Царкве; аўторам адозвы быў студыйскі манах Мікіта Стэтат. У ёй лаціняне асуджваліся ня толькі з прычыны „ерэтычнае“ навукі аб паходжаньні Духа Сьвятога, але галоўным чынам з прычыны іхнага звычаю ўжываць да Прычасьця прэснакі, захоўваньня посту ў суботы і з прычыны абавязкавага для ўсяго духавенства бязжэнства.

Мікіта асабліва націскаў на апошняе; і гэта было вельмі чулым для Папы, які з гэткаю энэргіяй стараўся падняць абычайнасьць духавенства. Як відаць, Мікіта не разумеў, ці рабіў выгляд, што не разумее сутнасьці царкоўнага правіла бязжэнства ў Заходняй Царкве.

Не падлягае сумніву, што надыхнуў абедзьве адозвы патрыарх Кэруляры; Лявон Ахрыдзкі быў яго верным васалам, а Мікіта ў чародным годзе прызнаўся перад папскімі легатамі, што ён дзейнічаў па загаду згары. Так ці іначай, але Кэруляры тады-ж далучыўся да ўсіх абвінавачаньняў і сам цадаў яшчэ іншыя закіды адносна рымскае Царквы ў асобнай сынодальнай пастанове, якая зьявілася адказам на адлучэньне яго ад Царквы.

Нарэшце Кэруляры сваёю ўладаю бяз ніякае сур'ёзнае прычыны распарадзіўся закрыць усе лацінскія цэрквы ў Канстантынопалі. Усім сьвяшчэньнікам, якія жылі пры лацінскіх манастырох, ён загадаў перайсьці незабаўна на грэцкі абрад, а таму што яны адмовіліся аддаў іх анафэме. Тады пачаліся ў горадзе сцэны дзікага гвалту над лацінянамі. Патрыарх ім не перашкаджаў, а яго сэкрэтар Нікіфар дайшоў нават да таго, што кідаў на зямлю і таптаў нагамі Сьвятыя Дары па тэй прычыне, што асьвячэньне іх быццам няважнае, таму што яны „прыгатоўлены“ з прэснакоў.

Можна ўявіць сабе, як гэтыя здарэньні падзейнічалі на Папу. Ён зараз-жа выслаў пісьмы да Лявона Ахрыдзкага і патрыярха, у якіх ён, пакідаючы ўсе дробязі, праз якія грэкі прабавалі стварыць прычыну для сваркі, проста напамінае аб вярхоўнасьці Рымскага Пасаду, а разам з тым і аб годнасьці абрадаў Царквы рымскае нароўні з усходнімі, паказвае на непарушнасьць рымскае царквы і вернасьць праваслаўнай навуцы, у той час, як сярод папярэднікаў Кэрулярыя было гэтулькі вераадступнікаў.

Гэтае пісьмо не зрабіла-б ні найменшага ўражаньня на Кэрулярыя, які якраз хацеў скасаваць вярхоўнасьць рымскае Царквы, калі-б не ўмяшаўся імпэратар, якога пабуджалі да гэтага палітычныя інтарэсы. Дзякуючы яму Кэруляры адказаў Папе ў дображадальным тоне, хоць і ня думаў падпарадкавацца.

Аднак Папа не давяраў, выслаў 3-х легатаў дзеля вырашэньня спрэчных пытаньняў. Імпэратар прыняў іх з ганорамі, патрыярх холадна. У пасланым праз іх пісьме Папа шчыра і з любоўю выказваў Кэрулярыю ўсю яго несправядлівасьць у адношаньні да Заходняе Царквы і да ўсходніх патрыярхаў і маліў выказаць пакорнасьць.

Але Кэруляры ня слухаўся. Як толькі даведаўся аб сьмерці Папы Лявона IX, дык пачаў выразна ігнараваць прысутнасьць легатаў, ані не зьмяніў сваіх распараджэньняў проці лацінян, загадаў Антыохійскаму патрыярху выключыць з памінавеньняў імя Папы ды перадаць гэты-ж самы загад патрыярхам Ерузалімскаму і Александрыйскаму. Таксама ані не падзейнічала і прызнаньне Мікіты, што ён памыляўся.

Легаты нарэшце, не дачакаўшыся ад Кэрулярыя паслухнянасьці, у суботу 16-га ліпня 1054 году, увайшоўшы на пачатку літургіі ў царкву сьв. Софіі, абвясьцілі Кэрулярыя зложаным з пасаду і палажылі на прастоле пасланьне Папы аб адлучэньні яго ад Царквы.

І тут адбылося няўхільнае. Гордасьць Кэрулярыя ўжо не магла стрымацца. Патрапіўшы прыцягнуць на свой бок народ і манашаства, ён выклікаў бунт і Канстантын IX, баючыся згубіць імпэратарскую ўладу, уступіў яму ва ўсім ды загадаў спаліць папскую бульлю аб адлучэньні патрыярха ад Царквы. Пасьля гэтага Кэруляры склікаў сынод і 20 ліпня выгаласіў анафэму Рыму. Пастанова гэтага сыноду паўтарала цалком энцыкліку Фоцыя з некаторымі дадаткамі Кэрулярыя.

Перамогшы, Кэруляры прабаваў захапіць таксама і імпэратарскую ўладу ў свае рукі, але ўзьведзены ім з гэтаю мэтаю на пасад Ісаак Комнэн, прадбачачы задуманае, загадаў замкнуць яго спачатку ў манастыр, а пасьля зрабіць над ім суд па-за Канстантынопалем, таму што баяўся народу. Але Кэруляры ў дарозе памёр у 1059 годзе.

Імпэратар, ня маючы чаго больш баяцца, загадаў пахаваць яго з вялікімі ганорамі. У хуткім часе ў грэцкай царкве пачалі паважаць Кэрулярыя, як мучаніка і сьвятога.

Гэтак вось Кэруляры ўстанавіў „праваслаўную царкву“ такою, аб якой лятуцелі яго папярэднікі; ён пайшоў нават далей і дасягнуў свайго, дзеля дзьвюх прычын.

Па-першае: будучы менш асьвечаным, як Фоцый, але затое больш практычным, ён не займаўся багаслоўскімі пытаньнямі, а падаў народу якраз тыя прычыны разыходжаньня паміж рымскаю і грэцкаю царквою, якія былі найбольш даступнымі яго разуменьню. Дысцыпліну, абрады і звычаі Захаду паказаў у найбольш адпіхаўшых хварбах і гэтым так падзейнічаў на неразьвіненыя галовы, што і аж дасюль

знаходзіцца гэтулькі людзей, якія ад чыстага сэрца робяць закіды лацінянам у кашчунстве і бязбожжы.

А па-другое: дзякуючы энэргіі, строгасьці асабістага жыцьця і ўмеласьці выкарыстаць спагадныя акалічнасьці, ён патрапіў прыцягнуць на свой бок манашаства, якое да таго часу цьвёрда трымалася адзінства з Рымскім пасадам. Манашаства зрабілася цяпер праціўнікам усяго „рымскага“ і прыхільнікам візантыйскае аўтаноміі.

(„Христіанинъ“).

---

# Паварот каталіцкіх сьвяшчэньнікаў з Савецкіх астрогаў.

Спэцыяльны корэспондэнт Каталіцкае Прэсавае Агенцыі даносіць з Рыгі:

На станцыі Індра ад імя Рыскага Архіяпіскапа Я. Пр. А. Спрынговіча прывітаў прыбыўшых з Расеі сьвяшчэньнікаў палацінску Я. Пр. Япіскап Ранцан, затым узяў слова а. Віцэнты Мелешка, прыбыўшы з Коўна. Ён прывітаў сьвяшчэньнікаў ад імя Сьв. Айца і каталікоў Літвы, таксама даў усім апостальскае багаслаўленьне, будучы спэцыяльна ўпаважненым на гэта Апостальскаю Сталіцаю. Япіскап Матулёніс адказаў палатыску на прывітаньне Япіскапа Ранцана, а а. Бугеніс палітоўску на прывітаньне а. Мелешкі. Адказы былі кароткія, але вельмі сардэчныя. Усе чуюцца як быццам уваскросшымі з памёршых. Пасьля цэрамоніі прывітаньня рыскі суфраган Япіскап Ранцан запрасіў былых арыштованых у свой вагон. Тут усе пасілкаваліся на вольнай зямлі. У Краслаўцы на станцыі чакаў прыбыцьця цягніка вялікі натоўп народу, каб аддаць чэсьць гэроям веры, у вагон падаваліся краскі і пачкі з ядою. На кожнай станцыі сустрачалі цягнік вялікія і меншыя групы ўцешаных і плакаўшых з радасьці каталікоў.

Вялікаю неспадзяванкаю для ўсіх быў акт, выпаўнены Япіскапам Ранцанам паміж станцыямі Сіловай і Узвалдаю. Япіскап Ранцан выявіў япіскапскую дастойнасьць яп. Матулёніса, упрыгожваючы яго галаву фіялетаваю піускаю, прывезенаю з сабою з Рыгі. Таварышы па нядолі, за выняткам а. Пронцкетіса, які быў пры консэкрацыі, ня ведалі, што сярод іх ёсьць Япіскап. Дзіўна выглядала гэта схварэлая, пакрытая рызьзём постаць з япіскапскаю піускаю на

галаве. Прысутныя злажылі япіскапу Матулёнісу чэсьць, ціснучыся да пацалаваньня яму рукі.

На Дзьвінскім вакзале чакалі вялізныя натоўпы народу. Выйшла мясцовае каталіцкае насяленьне на чале з духавенствам, прыбылі прадстаўнікі ўраду і места. Школьныя дзеці тварылі шпалер, аркестар зайграў гымны—папскі і нацыянальны. Былых арыштованых запрашаюць на палудзень, прыгатоўлены для іх каталікамі места ў буфэце I клясы. У часе палудня школьныя дзеці пяюць латыскія песьні. Дзьвінчуком дзякуе Япіскап Матулёніс і дае япіскапскае багаслаўленьне, як сам зазначыў, першы раз публічна. Айцец Бугеніс прамаўляў палатыску і папольску. Усе вяртаюцца ў цягнік. Разьлягаецца польская рэлігійная песьня „My chcemy Boga...“ Цягнік вырушае ў бок Літвы. Літва чакае сваіх найлепшых сыноў. Праз пару гадзін сьвяшчэньнікі-мучанікі ступілі на родную зямлю.

З савецкіх астрогаў вярнуліся гэткія сьвяшчэньнікі:

1) Япіскап Тэафіль Матулёніс, высьвячаны 8 лютага 1929 г. ў Ленінградзе. Япіскап Матулёніс быў арыштованы 24 лістапада 1929 г. і вынес у вастрогах страшэнныя мукі. Выглядае вельмі блага, страшэнна пахудзеўшы, твар бледна-жоўты, худое цела Япіскапа акрывалі агідныя і дзіўнае формы лахманы, на нагах меў неаднолькавай велічыні і формы зношаны абутак.

2. А. Міхал Бугеніс быў дзеканам і настаяцелем у Омску (Сыбір), пазбаўлены волі 21 жніўня 1930 г. Засуджаны на сьмерць, пасьля памілаваны і высланы на цяжкія работы.

3. А. Казімір Юршан, апошнім часам быў настаяцелем у Бабінавічах. Арыштованы ў 1926 г. Пасьля адбыльця кары ў Салоўках, выгнаны на вечнае пасяленьне ў ваколіцы Краснаярску.

4. А. Віцэнты Ільгін быў наст. у Харкаве. Арыштованы ў 1926 г. Страшэнна вычарпаны доўгалетнім астрогам, стан здароўя вельмі слабы.

5. А. Уладыслаў Чэгіс, быў настаяц. у Гатчыне; арыштованы ў 1931 г.

6. А. Віцэнты Дэйніс, арыштованы ў Ленінградзе ў 1928 г. Апошнім часам прабываў у Сьвірскім концэнтрацыйным лягеры.

7. А. Аўгустын Пронцкетіс, душпастырстваваў у Петраградзе. Арыштованы 27 студня 1930 г. Цяпер вяртаецца з Саловак вельмі схудзелы.

8. А. Вітольд Пашкевіч, быў наст. у Магілёве; арыштованы 27 студня 1930 г. Вельмі схудзелы і слабы здароўем.

9. А. Іоан Паўловіч, апошнім часам настаяцель у Калузе, адкуль апекаваўся іншымі 8 прыходамі. Арыштавалі яго ў Смаленску, прыбыў хворы, жаліцца на боль галавы. Выгляд страшны, твар апухшы.

10. А. Казімір Вялічка, працаваў у Петраградзе, тры гады назад быў выгнаны на вечнае пасяленьне ў ваколіцах Іркуцку.

11. А. Ян Ладыга, паходзіць з Польшчы.

(КАП).

---

# Бытэнь.

Кожнага году, дзякуючы клопатам настаяцеля а. Гэльмэра, ў Бытэні, Слонімскага павету, адбываюцца набажэнствы паводле лацінскага і ўсходня-славянскага абраду.

У гэтым годзе Сьв. Літургія была адслужана ў нядзелю 12 лістапада а. А. Неманцэвічам з Сынковіч. Пяяў вельмі прыгожа альбэртынскі хор пад упраўаю рэгэнта п. Аляксандра Турука. Сярод сьпевакоў сілаю ды прыгожасьцяю голасу ад'значаліся п. Зофія Юрчык (сопрано) ды п. Антоні Ерш (бас).

Праваслаўныя пакінулі сваю царкву ды прыйшлі да касьцёла паўглядацца, як адпраўляецца уніяцкая служба, і паслухаць прыгожага хору.

У Бытэні праваслаўныя арганізавалі камітэт, старшынёй выбраны п. Тодар Корза; задачай Камітэту ёсьць арганізаваць уніяцкі прыход на тым месцы, дзе калісьці працаваў сьв. Язафат, мучанік за Сьв. Унію.

Можна спадзявацца, што ў хуткім часе там паўстане вельмі паважная унійная пляцоўка, толькі каб Госпад Бог паслаў да Бытэня на сталае жыцьцё уніяцкага сьвяшчэньніка, грунт ужо добра падрыхтованы.

*Злучэнец.*



# Урачыстасьць Сьв. Параскевы ў Бабровічах.

28 кастрычніка паводле ст. стылю, а 10 лістапада паводле новага прыпадае сьвята Сьвятой Мучаніцы Параскевы. Да уніяцкае царквы ў Бабровічах, Касаўскага павету на гэты дзень зьяжджаецца шмат людзей з ваколічных вёсак, бо ў Бабровічах асабліва паважаецца Сьв. Параскева-Пятніца, там у чэсьць яе пасьвячана царква.

На гэту ўрачыстасьць а. Б. Пачопка, настаяцель у Бабровічах, у гэтым годзе запрасіў некалькіх уніяцкіх сьвяшчэньнікаў, а прыехаў толькі ніжэй падпісаны.

Пагода добрая, людзей сабралася амаль поўная царква. Да споведзі было толькі 12 асоб, бо нашыя каталікі ўсходня-славянскага абраду нажаль ня маюць звычаю на одпустах спавядацца.

Утраню адслужыў а. Пачопка сам, а Сьв. Літургію служылі мы супольна. Хор пяяў пад упраўаю Данілы, ня вельмі вучонага, ў кажусе з вялікім каўнярам, псаломшчыка. Ня так ужо дрэнна хор пяяў, як мне казалі.

Агульна можна сказаць, што людзі добра захаваліся ў царкве, прышлі дзеля малітвы, а не дзеля іншае нейкае мэты, як гэта часта бывае па цэрквах. Любяць бабравічане слухаць навуку ў роднай мове, з вялікай увагаю выслухалі і мае навукі аб Сьв. Параскеве. Як яна была адважнай у выяўленьні веры хрысьціянскай, так і кожны уніят мусіць быць адважным, няма чаго сароміцца, ці-ж гэта дрэнна, што выракся адшчапенства ды прыняў Сьв. Унію, веру дзядоў і прадзедаў, за каторую столькі яны перанясьлі мучэньняў ды зьдзекаў.

Пасьля Сьв. Літургіі адбыўся крэсны ход з эвангельлямі. Невялічкая царква ў Бабровічах, збудованая клопатамі а. Пачопкі, шмат у ёй яшчэ чаго не хапае, але і так можна дзівіцца з таго, што зроблена пры такіх цяжкіх абставінах.

Вельмі мілае ўражаньне робіць сям'я а. Пачопкі, у яго аж 7 дзяцей. Гаспадарка і дом якнайляпей дагледжаны, дзякуючы вельмі энэргічнай апецы ды працы матушкі.

Акалічныя вёскі, прыкладам Бабровіч, таксама імкнуцца да Сьв. Уніі. Каб можна было даць цяпер прынамсі трох сьвяшчэньнікаў, дык адразу можна было-б зарганізаваць тры новыя уніяцкія прыходы.

Дзякаваць Богу, сьвятая справа злучэньня хрысьціян увесь час шырыцца ды ўзмацоўваецца.

*а. Антоні.*

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Луцк (КАП). Навярненьне быўшага праваслаўнага духоўніка.** 11-га лістапада сёл. году зламыў вызнаваньне сьв. веры і прыняты ў лона Сьв. Царквы б. праваслаўны духоўнік а. Андрэй Віктароўскі, 60 гадоў.

**Луцк. (КАП). Адкрытае пісьмо праваслаўнага сьвяшчэньніка.** а. К. Лаўрэнчука, настаяцеля ў Ліпе, Гарохаўскага павету да праваслаўнага Мітрапаліта Дзіанісія зьявілася ў тыднёвіку „Życie Katolickie,“ якое выходзіць у Луцку на Валыні. У гэтым цікавым з розных бакоў пісьме а. Лаўрэнчук паміж іншым піша: „Калі я шукаў праўды, дык Хрыстос памог мне знайсьці яе ў аднэй праўдзівай Царкве пад павадырствам Сусьветнага Патрыарха Папы Рымскага. У межах гэтае праўдзівае Царквы я буду маліцца і за Вас, Уладыка, каб Вы, вызбыўшыся гордасьці і заразумеласьці, з пакораю прычыніліся да выкананьня загаду Хрыста Цара пра адно стада і аднаго пастыра.“

**Выезд Енэрала Марыянаў а. А. Цікоты.** У канцы мінулага месяца а. А. Цікота, Енэрал Марыянаў, з Друі на сталае жыцьцё выехаў у Рым.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**(КАП). Унійны рух у праваслаўнай Бэсарабіі.** У францускай часопісі „Крыж“ падана статыстыка і весткі аб пашырэньні унійнага руху ў Бэсарабіі. Дасюль каля 300 праваслаўных сьвяшчэньнікаў, г. зн. трэцяя часьць усяго тамтэйшага праваслаўнага духавенства, працуюць сярод цяжкіх варункаў для справы Уніі у Бэсарабіі. Ня гледзячы на вялікія перашкоды, унійная акцыя ў Бэсарабіі выказвае вялізарныя пасьпехі. Увесь каталіцкі сьвет сьлядзіць за разьвіцьцём гэтага унійнага руху, добра разумеючы, якое вялікае значэньне мае гэтая справа з пункту гледжаньня рэлігійнага, грамадзкага і нават палітычнага.

**Масква (КАП). Сьмерць сьвяшчэньнікаў у савецкіх вастрогах.** Апошнім часам у савецкіх вастрогах памёрлі сьв. пам. а. Павал Ашэбэрг і а. Язэп Сэнвайтіс. А. Ашэбэрг, як настаяцель у Адэсе, быў 1928 г. арыштованы і пасьля высланы на Салавецкія астравы, дзе і памёр ад тыфусу.

**Ватыкан. (КАП). Хвароба старшыні Камісіі Pro Russia.** Старшыня Папскае Камісіі Pro Russia, япіскап д‘Эрбіны

паважна захварэў і мусіў паддацца апэрацыі ў Брусэлі. Апэрацыя прайшла добра і хоць дактары радзілі хвораму даўжэйшы спакой, праўдападобна ў месяцы сьнежні япіскап д'Эрбіны вернецца да сваіх заняткаў у Рыме.

**Ватыкан. (КАП). Расейскія сьвяшчэньнікі ў Сьв. Айца.** 3-га лістапада с. г. Сьв. Айцец прыняў на аўдыенцыі расейскіх сьвяшчэньнікаў, прыбыўшых у Рым, каб адправіць рэколекцыі і юбілейныя набажэнствы разам з Я. П. Япіскапам Слосканам. Да сабраных сьвяшчэньнікаў Папа зьвярнуўся з прамоваю, поўнаю любові і словаў спачуваньня.

**Ватыкан. (КАП). Закончаньне рэколекцыяў сьвяшчэньнікаў усходня-славянскага абраду.** 29.X. с. г. у рымскай царкве Сант-Антоніо адбылося ўрачыстае набажэнства паводле ўсходня-славянскага абраду, адслужанае Я. Пр. Япіскапам Чарнэцкім у асыстэнцыі 14-цёх концэлебрантаў. Набажэнства гэтае было закончаньнем рэколекцыяў, якія ў працягу тыдня праводзіў Я. П. Япіскап Слоскан. У рэколекцыях бралі ўдзел паміж інш. а. Еврэінов, рэктар каталіцкае расейскае царквы ў Парыжы, а. Сіпягін, сябра кодыфікацыйнае камісіі кананічнага права Усходняе Царквы, а таксама а. Волконскі. Набажэнства адбылося ў прысутнасьці вялікага ліку верных.

**Нью-Іорк. (КАП). Гарантыі рэлігійных свабодаў для Амэрыканцаў у Саветах.** Перагаворы паміж прадстаўніком Саветаў Ліцьвінавым і прэзыдэнтам Злучаных Штатаў Рузвэльтам закончыліся прызнаньнем Амэрыкай СССР. Адным з найважнейшых пунктаў умовы ёсьць параграф, які абгаворвае справы, зьвязаныя з рэлігіяй, на першым пляне рэлігійную свабоду амэрыканскіх грамадзян, прабываючых у Расеі. Пункт гэты гарантуе амэрыканскім грамадзянам поўную свабоду ў рэлігійных практыках, у будаваньні цэркваў, тварэньні царкоўных шлюбаў, хрышчэньні дзяцей, а таксама пазваляе прабываць у граніцах Саветаў духоўнікам, якія займаюцца душпастырствам сярод Амэрыканцаў, а знач. як каталіцкім сьвяшчэньнікам, так і духоўнікам іншых веравызнаньняў.

**Рыга (КАП). Тэлеграма сьвяшчэньнікаў, б. савецкіх вязьняў да сьв. Айца.** Былыя савецкія вязьні, каталіцкія сьвяшчэньнікі, якія апошнім часам вярнуліся ў Літву, паслалі ў Ватыкан тэлеграму гэткага зьместу: „Япіскап Матулёніс і дзесяць сьвяшчэньнікаў, якія шчасьліва вярнуліся з выгнаньня ў Літву, складаюць да ног Сьв. Айца выразы сыноўскае любові і падзякі. З усяго сэрца дзякуюць Яму за

малітвы, заношаныя да Бога і за айцоўскі клопат аб хрысьціянах у Расеі, а асабліва за перасланае ім багаслаўленьне цераз пасярэдніцтва Апостальскае Нунцыятуры; усе заўсёды зьяўляюцца гатовымі вярнуцца на даўнейшае поле працы, як толькі зажадае гэтага Сьв. Сталіца."

# Усячына.

Беларускае грамадзянства і моладзь памятаюць аб сваіх паэтах. Сёлета 2.XI. падчас каталіцкіх Задушкаў беларускае грамадзянства і моладзь, за прыкладам мін. гадоў, грэміяльна адведвала могілкі беларускіх паэтаў Ядвігіна Ш. і К. Сваяка, пахаваных на віленскіх каталіцкіх могілках Роса. Над могілкамі паэтаў, у прысутнасьці вялікага натоўпу народу, хор, пад кіраўніцтвам грам. А. Стэповіча, стройна выканаў некалькі беларускіх рэлігійных песьняў, моладзь злажыла прыгожыя кветкі, а стар. грамадзянства паставіла многа сьвечак.

З дзейнасьці Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. 11.XI с. г. у VII залі галоўнага будынку Віленскага Унівэрсытэту У.С.Б. адбылося распачацьце працы Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У.С.Б. у новым акадэмічным годзе. Першую лекцыю на тэму: „Пахаронныя абрады ў Славян" ч. I чытаў абс. этн. У.С.Б. М. Пяцюкевіч. Далейшую II-гую частку гэтае лекцыі чытаў той-жа прэлегент і ў тэй-жа залі 19.XI.

Анальфабэтаў яшчэ многа. Паводле апошніх падлічэньняў на зямлі яшчэ $^2/_3$ людзей ня ўмеюць ані пісаць, ані чытаць. У Эўропе і Амэрыцы колькасьць анальфабэтаў зьмяншаецца, а ў некаторых краёх нават зусім іх няма. Мы, нажаль, да гэтых апошніх ня можам залічыцца, — а добра было-б.

Літэратурную нагароду Нобэля сёлета атрымаў расейскі пісьменьнік эмігрант Іван Бунін. Гэта ёсьць першы расейскі пісьменьнік, які атрымаў нагароду Нобэля. Іван Бунін хоча быццам сваей нагародай падзяліцца з другім расейскім пісьменьнікам — эмігрантам Дзьмітром Мережкоўскім, які ў прошлым годзе быў высоўваны на кандыдата да гэтае нагароды і яе не атрымаў і які ў сучасны мамэнт знаходзіцца ў дужа цяжкіх варунках жыцьця.

Нобэлеўскай Нагароды міру сёлета ніхто не атрымаў і нікому яна ўжо ня будзе прызнана. Можа і слушна, бо

цяпер перажна ўсе гавораць і імкнуцца да вайны, а не да міру.

**Па 3-х гадох летаргічнага сну** збудзілася ў Вене Мар'я Бэдэрманн. Кабета гэта заснула ў 1930 г., праз увесь час яна нічога не адчувала, але ўсьцяж худзела. Кармілі яе штучнымі спосабамі і думалі што ўжо хутка памрэ. Яна аднак абудзілася, папраўляецца і ёй здаецца, што яна спала ўсяго адну ноч. Прытым усё, што дзеялася з ёй перад сном, дакладна помне.

**Дзе і як доўгія бываюць дні.** Даўжыня дня на зямлі ў розных мясцох бывае іншая, і тяк у Гамбурзе (Нямеччына) найдаўжэйшы дзень трывае 17 гадзін, найкарацейшы — 7. У Варшаве — 16 г. 43 мін. — 7 г. 35 м.; у Стокгольме (Швэцыя) — 18 г. 30 м. — 5.30 г.; Ленінград (С.С.Р.Р.) — 19 г. — 5 г.; у Вондэрбурс — (Норвэгія) дзень трывае ад 21 траўня да 2 ліпня; а на Шпіцбэргу (ледавіты паўночны акіян) дзень трывае 3 з паловай месяцы.



# Календар

на м—ц Сьнежань 1933 г.

| Стары стыль | | | Новы стыль | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kal.niadz. i świata rymska-kat. | | |
| 1 | Ч | Наума | 14 | Č | Špirydona. Herona |
| 2 | П | Аўвакума | 15 | P | Walerjana. Irynieja |
| 3 | С | Софіі | 16 | S | Eŭzebija |
| 4 | Н | Барбары | 17 | N | Łazara. Alimpji |
| 5 | П | Саўкі | 18 | P | Nadz. N. Dz. |
| 6 | А | **Мікалая Чудатвор.** | 19 | A | Nemezija. Daryja |
| 7 | С | Амброжага | 20 | S | Teofila Zen. S. dz. |
| 8 | Ч | Патапа | 21 | Č | Tamaša |
| 9 | П | Неп. Пачац. П. Б. | 22 | P | Zenona Suchi dz., |
| 10 | С | Міны | 23 | S | Wiktoryi |
| 11 | Н | Данілы | 24 | N | **Kućcia Adm. i Ewy** |
| 12 | П | Сьпірыдона | 25 | P | **Kalady** |
| 13 | А | Аўксенія | 26 | A | **2 dz. Kalad Ściapana** |
| 14 | С | Тырса і Тав. | 27 | S | Jana Ap. i Ewan. |
| 15 | Ч | Элеўфэрыя | 28 | Č | Dzietak m. |
| 16 | П | Агея | 29 | P | Tamaša K. |
| 17 | С | Данілы пр. і 3 м. | 30 | S | Aŭhienia |
| 18 | Н | Савасьцяна | 31 | N | Sylwestra |
| | | | | | STUDZIEŃ |
| 19 | П | Баніфацыя | 1 | P | **Nowy Hod Abr. P.** |
| 20 | А | Макара | 2 | A | Imieńnia Jezusa |
| 21 | С | Юльяна | 3 | S | Genowefy |
| 22 | Ч | Анастасіі | 4 | Č | Tytusa b. i m. |
| 23 | П | 10 муч. Крэтэйск. | 5 | P | Telesfora Pap. |
| 24 | С | Куцьця. Аўгені | 6 | S | **Try Karali** |
| 25 | Н | **Каляды, Н. І. Хр.** | 7 | N | Lucyana |
| 26 | П | **Саб. Пр. Багар.** | 8 | P | Seweryna ap. |
| 27 | А | **Сьцяпана 3 д.** | 9 | A | Marcyjany p. |
| 28 | С | Вальдамара | 10 | S | Ahatona |
| 29 | Ч | 14.000 дз. заб. у Віф. | 11 | Č | Hygina p. |
| 30 | П | Анісі муч. | 12 | P | Św. Siamji |
| 31 | С | Малані | 13 | S | 40 žaŭnieraŭ muč. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.